НАЦЫЯНАЛЬНАЯ АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСІ
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# ГІСТАРЫЧНЫ СЛОЎНІК БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ

ВЫПУСК 16

**Коржъ — Лесничанка**

МІНСК
«БЕЛАРУСКАЯ НАВУКА»
1997

УДК 808.26 (038)(091)
ББК 81.2 Беи-4
Г 51

Рэдактар выпуска А. М. Булыка

Памочнік рэдактара Л. І. Рабаданава

Складальнікі:

А. М. Булыка (легкосердие — лесничанка),
Р. С. Гамзовіч (крижованый — крутофиля),
А. П. Груца (лазичный — легкорушный),
І. І. Крамко (купенье — лазити),
В. У. Мяснікова (корчмитка — краль),
Л. І. Рабаданава (крама — крижование),
У. М. Свяжынскі (крутый — купеный),
З. К. Турцэвіч (коржъ — корчмисть)

Рэцэнзенты:

канд. філал. навук М. Н. Крыўко,
канд. філал. навук В. Д. Старычонак

**Гістарычны** слоўнік беларускай мовы. Вып. 16. Коржъ —
Г 51 Лесничанка / [Склад. А. М. Булыка і інш.; Рэд. А. М. Булыка]. — Мн.: Беларуская навука, 1997. — 359 с.

ISBN 985-08-0053-4.

16-ты выпуск Слоўніка ўключае каля 2000 слоў на літары К—Л. Раскрыццё значэння слова, як і ў папярэдніх выпусках, дасягаецца падборам лексічнага эквівалента сучаснай беларускай мовы, падборам сінонімаў і апісальным шляхам. Пры раскрыцці значэння паасобных вытворных слоў выкарыстоўваюцца спасылкі на адпаведныя зыходныя формы. Выдзяляюцца пераносныя значэнні, фразеалагічныя і ўстойлівыя словазлучэнні, якія таксама ілюструюцца цытатамі са старажытных помнікаў.

Разлічана на моваведаў, гісторыкаў, этнографаў і ўсіх, хто займаецца вывучэннем гістарычнага мінулага беларускага народа.

**ББК 81.2 Беи-4**

ISBN 985-08-0053-4



# К

**Коржъ** *наз. Корж, праснак.* ȣпечи ми ѡдно с тои мȣки коржъ перве$^{s}$ (Бельск., 120); возми собѣ пшеницы, ꙗчменю, бобȣ сочивицы и ꙗкгел вложи то в$^{s}$ ѡдно начине, и надѣла$^{s}$ хлѣба, албо коржов (Там жа, 141).

**Кориандровый, корияндровый** *прым. ад* кориандръ. Манна ...была естъ ꙗкобы семѧ кориандрово бело (Скар. КВ, 32б); Была же естъ Манна ꙗко Зернетка Корианъдрова Дробна, светла на погледении (Скар. ЛК, 27б); была манна, ꙗко насѣнье кориꙗндровое барвы ꙗко бисера свѣтлого (Біблія, 186). *Параўн.* колияндровый.

**Кориандръ** *наз. Каляндра.* хлѣбъ которы$^{s}$ был г҃дъ б҃гъ ѡбѣцал спȣстит ꙗко зерна кориандрȣ, не знали жидове што то было, прето мовили манґȣ, выкладаетсꙗ, што то ест, а з того зовȣт манна (Бельск., 46б).

**Кориговати** *гл.* корыкговати

**Корикгация** *гл.* корыкгацыя

**Корикгацыя** *гл.* корыкгацыя

**Корикговати** *гл.* корыкговати

**Коринтчикъ** *наз. Тое, што і* коринфъ. апслъ до дрȣгих коринтчиков в гл. .в҃. жебы мовит ч҃лкъ тот в десперацию не впал (Зб. 261, 246).

**Коринтъ** *гл.* коринфъ

**Коринфианинъ** *гл.* коринфянинъ

**Коринфский** *прым. Які паходзіць з горада Карынфа, выраблены ў Карынфе.* двери церковныи ...коринѳъскою мѣдью ѡбиты котораꙗ мѣдь над сребро и золото свѣтлѣйшаꙗ есть (Біблія, 609—610); Двери ц҃рковныи... коринѳскою мѣдью обиты (Хран., 394).

**Коринфъ, коринтъ, корынтъ** *наз. Жыхар горада Карынфа.* ꙗко ȣчинилъ Апостолъ Павелъ, которыи въ второмъ посланью къ Коринфомъ кленетсѧ тако, сведетелѧ нарицаю Бога на душю мою (Будны, 20б—21);Гомили$^{s}$, м҃а на листъ, а҃, до корынтовъ (Унія, 16); до которог ѳȣньдаментȣ закладанꙗ ȣпо-

минает нас апостоль *ст* мовечы в перъвом посланю до корынтов (Зб. 261, 68); Але*ѯ*андеръ ...тѧгнꙋл до коринту И просили его коринтове абы ширмѣром игри строити казал (Алекс., 11); то ест офѣра за грѣхъ ѩко маешь .е҃. коринѳом (Хран., 106б); С҃тый Павелъ написа Листовъ д҃і ... къ Коринѳомъ (Зб. вып., 90). *Параўн.* коринтчикъ, коринфянинъ.

**Коринфянинъ, коринфианинъ** *наз. Тое, што і* коринфъ. Посвѣдчаеть ми того А҃плъ Павелъ, гдѣ ѡ дѣвстве тако къ Корінѳѧном совѣтуеть (Будны, 32); Апслъ .. рече Коринѳіаномъ (Там жа, 245); тотъ до всѣхъ коринѳѧнъ ... пишꙋчи оупоминаетъ всѣхъ, абы з братіею выстꙋпною сѧ не мѣшали (Апакр., 76); Тожъ и бжственый Апслъ Павелъ показꙋеть, кгды о нѣкакіис грѣхи примовлѧет[s] Коринѳѧнѡм[s], мовѧчи (Каліст, II, 35).

**Користати** *дзеясл. Карыстаца.* Боязнию Божею обязую, абы моею власностю нихто не користалъ (ИЮМ, XXIV, 400, 1647).

**Користити** *гл.* корыстити

**Користовати** *гл.* корыстовати

**Користоватися** *дзеясл. зв. Тое, што і* корыстовати. если не вѣдають ѡ ѕлодѣи, пана домꙋ ставѧть перед[s] сꙋдьев[s] и присѧгне же сѧ не користовалъ имъ (Хран., 99б).

**Користовникъ** *наз. Грабежнік, разбойнік.* Давыдъ внегда навратилсѧ въ сицелѣхъ градъ и знаиде его сожжена. Въспроси гсда и повелелъ ему гнатисѧ за користовники (Скар. ПЦ, 61б); Тогда въспроси Давыдъ гсда г҃лѧ поженусѧ за користовниками сими и поимаю ли их чили не (Там жа, 62).

**Користь** *гл.* корысть

**Корити, корыти** *дзеясл. Марыць, даймаць; скараць, уціхаміраваць.* То видѧчи хрстиѩне (розꙋмѣ[s]) ѩко се молили г҃дꙋ б҃гꙋ, постами корили просѧчи абы се з тои во[s]ны не вернул (Бельск., 282б); Мытникъ ... билъ перси свои, и срдце свое корилъ: а з[s] великою скрꙋхою и покорою мовилъ, Б҃же, милостивъ бꙋдь мнѣ грѣшномꙋ (Каліст, I, 6); Не держѣмо прето о собѣ высоко, але понижаймо себе и корѣмо (Там жа, II, 218); Корылемъ постомъ д҃шꙋ мою (Выкл., 119б).

**Коритися** *дзеясл. зв. Скараца, станавіцца пакорлівым.* твоемоу корюсѧ ѡбецанью (Чэцця, 58б); Лꙋчши ест коритисѧ с тихими, нежели делити користь з[s] гордыми (Скар. ПС, 26); цесар дꙋка ... до постов се и молитвъ, до г҃да б҃га людови всемꙋ ꙋдат казал, а сам босо и с плачем серцем скрꙋшоным г҃дꙋ б҃гꙋ се корил (Бельск., 380); дꙋховнымъ преложонымъ вашим[s] поволность всѣ повиннꙋю чинѣте: послꙋшны им бꙋдте, и корѣтесѧ перед ними (Каліст, I, 50б—51); Смѣрѧюсѧ: Смѣрен[s] бываю, корꙋсѧ, понижаюсѧ (Бяр., 152); то[s] сѧ ѡблудникъ в речи корил, и поправꙋ ѡбѣцꙋючи за ꙋпоминане дѧковал (Зб. 82, 364б).

**Корито** *гл.* корыто

**Корица** *наз. Карыца.* покропила есмъ ложницу мою Миррꙋ и Силолоемъ и Корицею (Скар. ПС, 14); Мирры избранное пѧтьсотъ сиклевъ, и корици половинꙋ того, иже ест двѣсте и пѧт[s]десѧть сиклевъ (Скар. КВ, 58б); Корицы лотъ 18 гр. (ИЮМ, XXIV, 70, 1713).

**Кориядровый** *гл.* кориандровый

**Коркоделъ** *гл.* коркодилъ

**Коркодиловый** *прым. ад* коркодилъ. привели емꙋ фриза бѣлого ѡсѣдланного, а седло было ѡт каменѧ андраѯа, а кожи коркодиловой (Алекс. 1697, 16б).

**Коркодилъ, коркоделъ** *наз. Тое, што і* крокодилъ. черепаха, коркодилъ, пиѩвица ... все то нечисто есть (Біблія, 164); реки жаден не моглъ переплынут, длѧ великости иппотамов, недвѣдков, и коркодилов (Алекс., 31); Нѣкоторые бовѣмъ ... сꙋпа и орла, иншіе коркодила: некоторые кота и пса ... и иншіе речи створеные чтили (Варл., 247); частокрот росказовал коркоделомъ абы его на собе през рекꙋ перенесли (Пралог, 678б—679); з ... ѡзера выходила ѡкрꙋтнаѧ бестыѧ, то ест коркодилъ (Зб. 82, 18б).

**Корливый** *прым. Пакорлівы.* привыклі люде не такъ далеце словамъ и наꙋце, ѩкъ справамъ и чꙋдомъ послꙋшными и корливыми бывати (Каліст, II, 188).

**Корлянский** *гл.* курлянский

**Корма I** *наз.* **1.** *Карма.* Следъ не можеть знайденъ быти внегда минеть [лодьѧ], и ни стежка кормы еѧ посреде волнъ (Скар. ПБ, 8); была бурѧ ветренаѧ великаѧ, и волны вливалисѧ в[s] лодью, ижъ ꙋжо погрꙋжаласе она. А был самъ на корме, на возъголовьи спечи, и възбудили его (Цяп., 48б).

**2.** *Стырно, руль.* Гребло Кормилное: Стыръ, корма (Бяр., 31); Кормило, или Кормилце: рꙋдел, и правилце, корма, весло корабелное которымъ стырꙋют (Там жа, 66).

**Корма II** *наз. Верша, рыбалоўная сетка.* чи будешь мочи вытѧгнути ꙋдою: Левиаѳана: и вервию ꙋвѧжеш[s] ли ѩзыкъ его ... чи наполниш[s] верши кожею его, и корму рыбнꙋю главою его (Скар. KI, 48б— 49).

**Корма III** *наз. Край (чаго-н.), ускраіна.* съ Дворицкого селища съ тымъ же паномъ Кашою у кормы по взлѣсью у тое жъ болото рубезкое (АЮЗР, II, 147, 1552).

**Кормазынъ** *гл.* кармазинъ

**Кормение** *наз.* **1.** *Тое, што і* кормленье *ў* 1 *знач.* ꙗко съ двухъ речеи человѣкъ е*ст* зложонъ, се есть, з дши и с тѣла, Тако потреба двоꙗкого корменіа, или хлѣба (Будны, 192); Вседневный же хлѣбˢ и слово божіе, и тѣлесное брашно или корменіе названо быти можеть (Там жа, 197).

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* кормити *ў 2 знач.* взꙗли сыновѣ Лѣвиевы иное доли на земли ... и посады градовъ къ корменію скоту и говꙗдъ (Скар. IH, 29).

**Кормилецъ** *наз. Выхавацель, карміцель.* рек дани*л* ѡномꙋ кормилцꙋ иж приставил боꙗрин каженическъ на данила и на хананию и на мишаела и на азарью (Зб. 262, 114); был ѡныи кормилець приношаꙗ хлѣбъ кꙋса их и вино питꙗ их и даючи им брашно (Там жа, 114—114б).

**Кормилица** *наз. Карміліца, мамка, нянька.* ѡтпустили суть ее и дельвору кормилицу еꙗ и слꙋгу авраамова и всехъ еже с нимъ быша (Скар. КБ, 44); В то врѣмꙗ ꙋмре Делвора кормилица Ревечина (Там жа, 64б). *Параўн.* кормилница, кормителница.

**Кормилница** *наз. Тое, што і* кормилица. Питателница: Доилица, мамка, кормилница (Бяр., 104).

**Кормимый** *дзеепрым. ад* кормити *ў* 1 *знач.* двца мрнꙗ ... пищею кормима ѡт аггла до .ві. годины (Чэцця, 80).

**Кормителница** *наз. Тое, што і* кормилица. ты еси ... сиротамъ кормителница (Чэцця, 80б); вˢ збавенномъ покꙋты дарѣ роскохаймосꙗ ... а ꙗкъ кормителницꙋ и маткꙋ всѣхъ цнѡтъ ... пріймѣмо (Каліст, II, 292).

**Кормитель** *наз. Карміцель, той, хто корміць, утрымлівае каго-н.* крстъ живым кормитель заблꙋжьшимъ направитель (Чэцця, 21); ѡнъ ...сиротам кормитель (Там жа, 90б—91); Ісаіа пишеть, ꙗко Цари мають быти церквамъ доителе, а кнꙗгыне кръмителе (Будны, 92б—93); ѡное бовѣмъ знаетˢ своего кормителꙗ, ты зас того, ѡт которого з ничого естесь створеный ... не знаешь (Варл., 286).

**Кормити** *дзеясл.* **1.** *Карміць, харчаваць, даваць ежу, корм.* на поустыни кормил вас мамною сорокъ лѣтъ (Пак. Хр., 21); хоръте и выжъловъ въ домехъ ихъ не мають ховати и ихъ коръмити (КПД, 72, 1529); хотех кормити немощного некакою



потравою (Арыст., 221); в голод челꙗдь свою невол*н*ую выбил з дому проч не хотꙗчи их кормити (Ст. 1566 I, 92б); Пан Трыщан рече: Панно, то сꙗ еси кинула на великую вагу, што еси длꙗ нас убила тое, чым бы еси мѣла кормити ѡтца своего (Трыст., 120); свини пас и ѡные кормил (Зб. 261, 79б); голод панꙋет, так иж тебе не маю чим кормити моˢ милыˢ снꙋ (Бельск., 234б); мусѣли кормити его, кидаючи ему иногды хлѣбъ, а иногды молонꙋю сочовицꙋ (Пралог, 488б); таковаго повиненˢ Епспъ кормѣти и одѣвати,зˢ провентовъ своихъ (Зб. вып., 60). // *перан. Жывіць, даваць духоўную ежу, выхоўваць высокія духоўныя якасці.* гн бе сил докол гневаешис на млтвꙋ раб твоих. кормиш нас хлебом слезным, и поиши нас слез в мерꙋ (Пс. XVI, 83); з шии его коли головꙋ ꙋтꙗто не чырвонаꙗ, але бѣлаꙗ кров ꙗко молоко се вылила, бо солодким молоком наꙋки своеи вѣрныи кормил (Бельск., 213б); Дхъ Стый зˢ нбꙗ сходꙗчій кормить и поить дꙋшѣ (Каліст, I, 166б); ꙋваж напрод гоˢност збавителевꙋ, которыˢ так гоˢне кормит люд побожныˢ ижъ всегды их в дꙋхꙋ насыщает (Зб. 255, 88); герасим свꙗтыˢ ... тѣло постомъ, милост розмишленым, дха молитвою, кормилъ и трꙋдилъ (Пралог,. 487б). *Параўн.* кармити *ў* 1 *знач.*

**2.** *Выкормліваць дзіця (патомства) сваім малаком.* придоут дни оу которых речете ... благословленые гроуди которые не кормили (Пак. Хр., 10); оу той каплици еще кажоут камен на котором панна Мрія оусегды седела.коли свое дитꙗтко ісса кормила (Валх., 58); ланѣ обнажили перси и кормили дети свое (Скар. ПЕ, 9б); Принела жена и кормила дѣтꙗ, а коли подросло ѡтдала дочцѣ фараѡновѣ (Біблія, 108); иные повѣдают ... ижъ не кормила тых дѣточокъ власнаа волчица, але сама жона ѡного фаꙋстына пастыра (Рым., 78); млекомъ зˢ паненскихъ престыхъ персій своихъ кормила (Каліст, II, 208); взꙗвши двѣ корове которыи кормили телꙗта, запрегли ихъ вˢ возъ (Хран., 203б); дѣти которихъ есми кормити мѣла, власными своими рꙋками забивала есми (Пралог, 533).

**3.** *Утрымліваць, забяспечваць ежай, кормам.* призволили есмо ему сестренцомъ своимъ записать — Митьку а Тимоѳею, а Макарю Пашковичомъ, ижъ бы его до смерти кормили и призирали (КЗ, 51—52, 1460); мы бобровъника кормимъ и поднимаемъ из своее ѡтчыжны власное ... ѡни посполъ со мъною ... бобровника кормити и поднимати не хочат (КВЗС, 122, 1539); сыну моему Мисайлу, епископу Смоленьскому,

мене кормити и мною печаловатися до моего живота (АЗР, III, 233, 1578); ωног мѹжобо$^s$цѹ прымѹшати през право теж може абы ее з детми кормил (Зб. 261, 253); настѹпил на столицѹ патриаршѹю иωан названы$^s$ млстивы$^s$, которы$^s$ набѹдовал розмаитых шпитали$^s$, и хорых и ѹбогих там кормил (Бельск., 335б); Бгъ кормилъ Адама в$^s$ раи безъ сѣмѧнѧ (Каліст, II, 15). *Параўн.* кармити ў 2 *знач.*

4. *Жывіць.* ꙗкъ вода з$^s$ нба сходѧчи ωтживлѧетъ и кормит$^s$ вшелѧкіи з$^s$ землѣ походѧчіи дерева и травы, и одновидна бѹдѹчи, розмаитыи скѹтки выдаетъ (Каліст, I, 134—134б). ◊ Н а д е е ю  к о р м и т и — *падаваць надзею, абнадзейваць.* коли сꙗ ѹпоминал Глински$^s$ по взꙗтю Смоленска, московски$^s$ его толко порожнею надѣею кормил (Стрыйк., 578); которіе собѣ знаменитые скарбы цнотъ събрали, и надѣею несмертелныхъ добръ себе кормѧтъ, тых$^s$ ꙗ слѹшнымъ способомъ над тебе, и над вшелѧкого кролѧ земного, богатшими быт повѣдѣлемъ (Варл., 159б); Сынкъ котори$^s$ сꙗ ввес ѹдалъ абы былъ богача порожнею надѣею кормилъ, ничого не ωтповедал (Пралог, 539б); л е к а р ь с т в о м ъ  к о р м и т и — *даваць лякарства, лячыць.* по сем корми его лекарьством. избавлѧющим замесным. или ωсобным. подлоуг нарѧдѹ (Арыст., 206).

**Кормитися** *дзеясл. зв.* **1.** *Ад* кормити ў 1 *знач.* милостныи мои пошолъ къ ωгородѹ своемѹ къ грѧдѣ зелеинои кормитисѧ въ ωгородѣхъ и збирати рожи (Зб. 262, 85); азаж не так волкове чинꙗт, которые коли не могут быт мꙗса насычены з голодѹ се землею кормꙗт (Бельск., 180б); которые истинны не маютъ, але только простымъ хлѣбомъ кормятся ... о Рымлянахъ мовлю (Гарм., 20б); кождое з нихъ на которомъ мѣстцѹ родилисѧ, бѹдь на земли, бѹдь на повѣтрѹ, тамъ и мешкан$^s$е маетъ, кормит$^s$сѧ, и ωпочиваетъ (Мак., 122); Зѣл$^s$ем$^s$ зась роcтѹчим$^s$ в$^s$ пѹстыни кормилсѧ (Варл., 337); Питаюсѧ престранно естем$^s$ в$^s$ роскошахъ, кормлюсѧ, пресыщаюсѧ (Бяр., 104); шолъ до пустыни, где сꙗ кормилъ кореньем травным (Зб. 82, 351). // *перан.* тое теже опѧть абы сѧ кормили праведнии, и огнь также своеѧ моци запомѧнулъ (Скар. ПБ, 25б); Которыи бовѣмъ Бгѹ слѹжать, словами его бжственными кормѧтъсѧ (Каліст, I, 12): часѹ з мертвыхъ встанѧ повсталыи тѣла, иншим$^s$ Бозскимъ ωдѣн$^s$емъ ωкрыют$^s$сѧ, и покармом нбснымъ кормитисѧ бѹдѹтъ (Мак., 113); там сꙗ толко молитвою кормꙗчы, а посилокъ небесны$^s$ ωт хрста маючы дрѹги$^s$ ωнъ голод вытрвала (Зб. 752, 461б).



**2.** *Ад* кормити ў 2 *знач.* там же кормилисѧ ωт волчицы посполу з волченѧты (Рым., 77б); немовѧтко, припадши до персій матки, пріймѹетъ до себе молоко и кормитсѧ (Мак., 111).

**3.** *Жыць, утрымлівацца.* мати моꙗ богатымъ жонамъ кошули мыет за пенѧзи и тым сѧ кормить ꙗкъ убогаѧ (Бава, 135); Сенчукъ ... тымъ дей житомъ, которое въ гумне по смерти своей зоставилъ, казалъ жоне своей кормиться (АВК, XVII, 186, 1540).

**4.** *Займацца жабрацтвам, папрашайнічаць.* тотъ Онципоръ и Демъянъ отходили кормитисе, а нине опять на тые места пришли (КЗ, 56, 1475); которы бы кольвекъ чоловѣкъ отъколь до того места Виленского пришолъ и тамъ мѣшкаючи и кормячися черезъ шесть лѣтъ в томъ мѣсте былъ (СДГВ, 60, 1538); вжо тому четвертый годъ идетъ, яко она за тымъ его розлученьемъ по людемъ ся кормитъ (АЗР, III, 2, 1545); Подданый убогій и недостаточный часовъ голодъныхъ, засеявъшы на зиму, кгды отъходить кормитися, маеть оповедати ся врадови пры войте и указати убозство и недостатокъ свой, для чого то учынити мусить (КПД, 577, 1557).

**Кормление** *гл.* кормленье

**Кормленый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* кормити ў 1 *знач.* приноси потребы и живность сыну господина своего Мифивозеѳа да будеть кормлен$^s$ (Скар. ДЦ, 82); бы чл҃вкъ прꙗгнулъ а золото пил, прꙗгнене бы не ωтшло, А если бы голоднѣл а покармомъ справленым з золота был бы кормлен, голодѹ не ωтдалит (Алекс., 35—35б); без$^s$ дш҃ѣ чл҃вкѹ покармѹ не потреба, мертвое бовѣмъ тѣло приωдѣвано толко бываетъ, ане и кормлено, але одѹшевлено боудѹчи, бываетъ кормлено (Каліст, II, 14б); бц҃а ... бѹдѹчи кормленаꙗ ωт ангела сторожа, тое покори ωт двере$^s$ своихъ не ωтпѹщала (Зб. 259, 491б).

**2.** *Ад* кормити ў 2 *знач.* чому ... вышедши з живота зараз не згинѹл, длꙗ чего принꙗты$^s$ на колѣна, чомѹ кормлены$^s$ персꙗми, тепер бовѣмъ спꙗчи молчалъ бым (Біблія, 81); щенꙗта ... если тог часѹ моло[ко]мъ тлѹстымъ бывают кормленые, тогды албо ничого албо зле видити могут (Зб. 259, 192б).

**3.** *Які адкормлены, выкармлены.* жена же та имеаше телѧ кормленое в дому своем (Скар. ПЦ, 60); Тые то пакъ были покармы и страва царѧ Саломонова ... десеть воловъ дома кормлѣныхъ, а двадцеть воловъ пастовныхъ (Скар. ТЦ, 130б).

**Кормленье, кормление** *наз.* **1.** *Харч, ежа; корм.* соломы ярное на кормленье статку зъ двадцать, сѣна стирта на

заболотьи (АВК, XIV, 412, 1592). *Параўн.* кормение ў 1 *знач.*, кормля ў 1 *знач.*

**2.** *Дзеянне па дзеясл.* кормити ў 1 *знач.* Гсдь богъ приказалъ естъ Моисеомъ рабом^s своимъ, абы даны были намъ грады къ прѣбыванию, и посады ихъ къ кормлѣнию скоту (Скар. IН, 39б); Одрына для сѣна-жъ, съ хворосту плетеная, старая, у ней жолобы два, для кормленія воловъ (АВК, VIII, 418, 1581). *Параўн.* кормля ў 2 *знач.*

**3.** *Дзеянне па дзеясл.* кормити ў 2 *знач.* наблизшш^s емꙋ был, царигородски^s патриарха евтихи^s, которы^s емꙋ се моцно спротивил, мовѧчи, ѧко несказителное тѣло терпѣт могло ѡбрѣзане, млеком кормлене и гвоздьѧ прибитѧ, и крстъ (Бельск., 328б).

**4.** *Адкормліванне, выкармліванне; выпас.* сꙋть мꙋжи пастыревѣ овѣцъ, и дело их около кормлениѧ скотꙋ, протожъ говѧда своѧ и скотъ и все имение свое припровадили с^s собою (Скар. КБ, 86—86б); Статокъ вшелѧкій: коровъ двѣ рыжихъ ... козъ четверо, свиней великихъ на плодъ четверо, вепровъ годныхъ на кормленье четверо, подсвинковъ пятеро (АВК, XIV, 411, 1591). *Параўн.* кормля ў 3 *знач.*

**Кормливати, кормлювати** *дзеясл. шматкр.* **1.** *Ад* кормити ў 1 *знач.* всю тую шесть недель кони бы есте нашы кормили такъ, какъ и передъ тымъ кормливали (КЗ, 523, 1494); мы дей оравши [волы] у дворъ увогнали и мякины имъ дали, гдѣжь и первей кормълювали (АВК, XVII, 194, 1540).

**2.** *Ад* кормити ў 3 *знач.* мы не повинни с тыхъ земль бобровъника кормити и поднимати перед тымъ есмо не кормливали (КВЗС, 122, 1539).

**Кормливатися** *дзеясл. зв. Забяспечвацца кормам.* вольно бывало изъ старины мѣщаномъ на болоньи сѣно косити, а острова за Днѣпромъ чимъ ся мѣсто кормливало (АЗР, І, 145, 1494).

**Кормлювати** *гл.* кормливати

**Кормля** *наз.* **1.** *Тое, што і* кормленье ў 1 *знач.* Кормлѧ Іѡаннова была Акрыды, або прꙋжіе, и медъ дикій, або лесный (Каліст, II, 278); Брашно: Потрава, покарм^s, ѣдло, кормлѧ (Бяр., 10); кормлѧ ѡнаѧ ѧчменѧ и таѧ им была ѡтнѧта (Зб. 107, 95). // *перан.* Телцы мнѡгость и достаток значат покармѡв дхѡвных и дарѡв,которыи важены быти маютъ над всѣ дочасныи казител^sныи пѡкармы; бо естъ дꙋшевнаѧ ажъ наддаръ высокаѧ бжственныхъ оученій кормлѧ (Каліст, II, 79б).

**2.** *Тое, што і* кормленье ў 2 *знач.* елена. много золота и срѣбра. ѡтдала на службьу црκви. и поручила на коръмлю нищих (Чэцця, 205б); Вар, а, і, ніте: В^s товариствѣ, або в^s злости, в^s плачꙋ, або в^s кормли (Бяр., 251).

**3.** *Тое, што і* кормленье ў 4 *знач.* Питаніе: Кормлѧ, тꙋчѣн^sе (Бяр., 104).

**Кормлянинъ** *наз. Жыхар вёскі Кормля.* въ томъ обрубѣ ихъ подданые тѣжъ волости Гомельской, Кормляне и Демьяновцы маютъ уступъ въ деревѣ бортномъ (АЗР, V, 39, 1640).

**Кормникъ I** *наз. Рулявы, стырнавы.* онъ же спить посрѣди морѧ, и ѧко дремлющий кормникъ он^s же ꙋпустилъ ест весло свое (Скар. ПС, 36); мы братіе вмѣсто кораблѧ Црковъ Хвꙋ быти розꙋмѣймо, на мори сегосвѣтнего мешканѧ плаваючꙋю, маючꙋю кормникѡвъ ѡсщеных^s, и вѣрныхъ Архіереѡвъ и Іереѡвъ (Каліст, II, 26); поневажъ ѡ пришлыхъ речахъ не вѣдаетъ, тым^s болей надѣѧтисѧ маетъ, моцно оуфаючи кормникови (Мак., 290); кормникомъ бꙋдꙋчы ихъ выбавилъ ѡт ѡног потопленѧ (Зб. 81, 178).

**Кормникъ II** *наз. Гандляр харчовымі прадуктамі і спіртнымі напіткамі.* Кꙋзма Ескович послал до Риги крꙋгъ воскꙋ заторговать кормъником, своимъ приѧтѣлем (ПГ, II, 80, 1480); жаловалъ намъ мещанинъ плебанеи витебъское кормникъ на ^sмѧ костъкодꙋлов на ... федка (КВЗС, 51, 1538); Его корл. млсть кормникомъ мещаномъ своимь Витебскимъ на вечность надати и фундовати рачылъ брацтво и волность складу и шынку медоваго, пивного и горелочного (ИЮМ, I, 365, 1626).

**Кормный** *прым. Якога кормяць на забой; адкормлены, кормны.* привели к немꙋ тисѧчю тисѧчь конеи кормных поровых (Алекс. XV, 2); лѣпше ѣства исъ зелени а любов там нижли вол кормныи а ненависть в нем (Зб. 262, 100б); с клети взѧли семъ копъ до него вепра кормного (КВЗС, 75б, 1538); имъ згинулъ вепръ великій кормный (АВК, VI, 93, 1589); был ѡброкъ соломонов на кождый день ... к҃ волов пастовных, и сто баранов, ѡпрочъ лову, елений, сарнъ и бу^sволов и птаства кормного (Біблія, 412); кгды сынъ твой сей, который маетность свою з^s вшетечницами поелъ, пришолъ, закололесь длѧ него телца оного кормного (Каліст, I, 9б); Пентефрей: Африцкій волъ, з^s сvр и ев: кормныи бык (Бяр., 303); онаѧ жена мѣла телѧ кормное в^s домꙋ, а поспѣшившисѧ и забила е (Хран., 238б); у войта узяли вепра кормного забитого (АВК, XXXIV, 421, 1666); вавилонѧне ... вывели емꙋ дарыевых конеи кормных^s тисѧчꙋ (Алекс. 1697, 36).

**Кормовый** *прым.* ◊ К о р м о в ы е   д е н ь г и — *грошы, якія ў Маскоўскай дзяржаве даваліся службовым людзям у якасці платы на ўтрыманне.* давано въ Москвѣ съ казны господарской кормовые деньги, перво по десяти золотыхъ, а вдругово по тридцати золотыхъ на человека съ конемъ (АЗР, IV, 487, 1615).

**Кормъ** *наз. Ежа, харчы; корм, ежа жывёлы.* коли на воинꙋ идꙋт абы нигдѣ оу своеи земли, у селех не стоꙗлі але на полі, ані конеи брали, ані жівотіны, ані плотов пожігали, ѡдно конемь оу ровності кормь (Вісл., 28); тебѣ и твоимъ товарищомъ кормъ людской и конской велимъ давати (АЗР, I, 264, 1501—1503); князь великій ... кормъ посломъ велѣлъ давати доволенъ (АЗР, II, 267, 1533—1538); розказали есьмо то имъ Андрею и Павлу Сапѣжинскому, абы они зъ росказу твоего ... кормъ всякій на певныхъ мейсцахъ для пріѣзду нашого розложили (АВК, XIII, 25, 1547); кормъ его былъ саранчи и мед$^{s}$ дивии (Цяп., 4); с тыхъ пенезе$^{s}$ на кожды$^{s}$ годъ выпускꙋ маеть быти, хлопꙋ рꙋбль гроше$^{s}$ а жонце копу гроше$^{s}$ ѡкромъ ѡдежи и кормꙋ што ѡбое ѡнже давати маеть (Ст. 1588, 492); кормы конскіе намъ зъ уѣзду Смоленского, а вамъ до времени зъ уѣзду Дорогобужского имати (АЗР, IV, 463, 1615); великій князь Витовтъ, дѣду ихъ Близнѣю подводъ и ни корму и ни которыхъ подачокъ давати, никакое службы служити не велѣлъ (АВК, VII, 81, 1722). // *перан.* не ѡпалит лесть кормꙋ своего добыток ч҃лкоу дорогомꙋ розтропность (Зб. 262, 99б). ◊ Д л я   к о р м у   х о д и т и — *адпраўляцца здабываць харчы, корм.* наши люди въ волость Смоленскую для корму ходили (АЗР, IV, 466, 1615); которыхъ рускихъ людей люди королевского величества, у волость Смоленскую для корму ходячи, къ намъ на станъ привели (Там жа).

**Кормячий** *дзеепрым.* **1.** *Ад* кормити *ў* 1 *знач.* того бовѣмъ на которого они страшный, непристꙋпнои славы, маестатъ глѧдѣти не могꙋчи, обличѧ крылами закриваютъ, на рꙋкахъ своих, ꙗко дитѧ пѣстꙋючи, носила, и кормѧчого все створене, млекомъ з$^{s}$ паненскихъ прес҃тыхъ персій своихъ кормила (Каліст, II, 208).

**2.** *Ад* кормити *ў* 2 *знач.* бѣда беремѣнным и персѧми кормѧчим в оные дни (Каз. Кір., 50б); бѣда бременным и персꙗми кормꙗчим в тые дни бо бꙋде ꙋтискъ велики$^{s}$ на землѣ и гнѣв над людом тым (Бельск., 223б).

**Кормячийся** *дзеепрым. ад* кормитися *ў* 1 *знач.* справꙋ темъныхъ намѣтностій грѣха в$^{s}$ собѣ маючаѧ, и кормѧчаѧсѧ и



тꙋчачаѧсѧ ею, не есть ѡд тѣла Х҃ва, ни ѡд тѣла свѣта але есть тѣломъ темностій (Мак., 8); Такъ ѡплакиваетъ Б҃гъ и ст҃ыи А҃ггли д҃шѣ не кормѧчеи сѧ д҃ховным$^{s}$ покармомъ Д҃ха, и не живꙋчеи в$^{s}$ несказителности (Там жа, 14); Івинъ, Птах: оужами кормѧчійсѧ боцѧнови подобныи (Бяр., 280).

**Кормящий, кормящый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* кормити *ў* 1 *знач.* презъ кормꙗщых тылко слабых и ѡзꙗблых на тых всех мовит збавитель беда и тым (Зб. 261, 129).

**2.** *Які добра насычае.* иныи же кормъ тонокъ. из него же рожаетсѧ кров тонкаѧ. толсты же ра[жа]етсѧ кровъ и ровнаѧ. тонкии же кормѧщіи. ꙗк бы юха мѧснаѧ. и желток ꙗечныи. и вино толстыи. и много кормѧщыи. ꙗко бы сыръ и мѧсо сꙋхое (Арыст., 216); кормъ ... разныи толсты же много кормѧщіѧ. ꙗице варено во переспенкꙋ. и мѧсо волово и козлово. и гроубеи сих свиное. тонкии же и много кормѧщіи добрыи захованием желтокъ ѧечныи и вино и вода мѧсо варено (Там жа, 216—217).

**Корневатка** *наз. Дрэва з вялікай колькасцю каранёў.* почынаетьсе граница од кгрунту ... ручъемъ малымъ у ель корневатку (ИЮМ, XXV, 342, 1719).

**Корневатый** *прым. Каранасты, караністы.* тогды мы тое имене свое Столбцы в получасю продали есми ... з сеножатми всякими и з деревомъ бортнымъ корневатымъ(ИЮМ, XXIII, 478, 1630).

**Корнетиста** *наз. Карнетыст.* Сопецъ: Играчъ, пищалник, сꙋрмачъ, корнетиста (Бяр., 153).

**Корнетъ** *наз. Карнет, духавы медны музычны інструмент.* вмѣсто пищалѡкъ, трꙋбъ, корнетѡвъ и шаламаевъ, оуставичное вздыхане (Каліст, II, 132б).

**Корноваленинъ** *наз. Жыхар Карнаваліі (зараз графства Карнаваліс у Англіі).* видевшы то корновалене почали плакати велми жалостно (Трыст., 23); было тут великое веселье и прыꙗзнь орлендееномъ с корновалены (Там жа, 65). *Параўн.* корновалецъ.

**Корновалецъ** *наз. Тое, што і* корноваленинъ. корновалцы, которые того гледѣли, почали кликати (Трыст., 21).

**Корновальский** *прым. Які мае адносіны да Карнаваліі (зараз графства Карнаваліс у Англіі).* в том имъ была рада ѡт королѧ Марка корновальского (Трыст., 12); король Марко и Трыщан и вси рыцэры панны и пание корновальские ходечы у цэрковъ молили сѧ богу (Там жа, 20).

**Коробанка** *наз. Пасудзіна з кары.* свецъ лоевыхъ великихъ десятокъ осемь малыхъ десятка два, коробанка на свечы, чынитъ зол. два и асм. двадцать одинъ (ИЮМ, I, 24, 1679).

**Коробачка** *гл.* коробочка

**Коробейникъ** *наз. Бондар, той, хто вырабляе (робіць) карабы.* Пꙋдаръ, Коробейникъ, или бондаръ (Бяр., 132).

**Коробельникъ** *гл.* карабельникъ

**Коробка** *наз.* **1.** *Каробка, скрынка, пасудзіна рознай формы і рознага прызначэння, сплеценая з лазы, саломы і інш.* виделъ коробъкꙋ лꙋбенꙋю без замъка и в не^s^ кита^s^ки черъленое пꙗтдесꙗт локотъ (КВС, 454б, 1552); скринка малаіа, коробъка малаіа без века з белыми хустами (ИЮМ, XXXII, 25, 1578); Спратъ домовый: кубловъ, кади три на вариво ... бочокъ пивныхъ три, коробокъ посполитыхъ семнадцать (АВК, XIV, 634, 1599); Хтож^s^ свѣчꙋ зажегши под коробкꙋ подкладаетъ (Каліст, II, 162б); продавши такъ лубье, яко и коробки, до того, кому есми продалъ, одвозилъ (АВК, XVIII, 348, 1646); Коробокъ две на розную харчь (ИЮМ, I, 25, 1679); коробка до яблокъ, асмак. десять (ИЮМ, II, 137, 1684); Коробку на мясо заплатили осм. осемъ (ИЮМ, IV, 63, 1686). *Параўн.* кробка.

**2.** *Шкатулка, куфэрачак, скрыначка для захавання каштоўнасцей, розных папер.* коробка, матка жемчужная, серебромъ обложена, позолочена съ верьшкомъ, у пана Ивана Альпишевича заложено (АЮЗР, II, 124, 1509); Коробъка леквароваꙗ, полна каменьꙗ розныхъ барвъ (КСД, 873—874, 1516); украдено маетности моее готовыхъ грошей съ коробъки полтрети копы грошей (ИЮМ, VIII, 262, 1600); коробка з фарбою Турецкою, коштовала золотыхъ трыдцать (АСД, I, 251, 1616).

**3.** *Мера некаторых харчовых тавараў.* меду дей прѣсного в кадце и в коробце полтретя ведра ... крупъ грецкихъ коробка (Пін., 133, 1562); панъ Гуринъ ... побралъ ... яблокъ садовыхъ полторы коробки великое (Там жа); Спꙋдъ: Мѣра, корец, чвертнѧ, або нѣѧкаа коробка (Бяр., 154).

**Коробочка, коробачка** *наз. памянш.* **1.** *Ад* коробка *ў 1 знач.* Коробочку купили на свечи за осм. три (ИЮМ, VIII, 140, 1691); куп. мяса 1 зол. 10 вос., ... коробачку до цукру 3 вос. (ИЮМ, XXI, 32—33, 1711).

**2.** *Ад* коробка *ў 2 знач.* казал теж принести сердаминовꙋю коробочкꙋ, з которои мѣвал ꙋтѣхꙋ август цесар римски^s^ (Стрыйк., 472); коштовные дары великие, в ѡнꙋю коробочкꙋ склавши (Там жа).



**Коробъ, корабъ** *наз.* **1.** *Караб; пасудзіна, сплеценая з лубу, саломы і пад., для захавання, пераноскі, упакоўкі чаго-н.* и замꙋчивши, и послала своимъ члвкомъ въ коробе еще живую до своего ѳольваръка (КСД, 828, 1514); Тамъ же у той клети были у коробе листы от Ларъка ... на петнадцат копъ грошей (АВК, XXXIX, 207, 1579); взяли ... бочокъ пивныхъ късвасников, кадей варывных , лагунов, ушатков, коробов, лукошек, дежокъ (АВК, XXXVI, 43, 1582); Спратъ домовый: кубловъ, кади три на вариво, кошъ хлѣбный, коробовъ великихъ пять зъ вѣками (АВК, XIV, 634, 1599); за подшытье кунтыша феску дворнику золот. а҃ и асм. і҃; корабъ заплатили асм. к҃ (ИЮМ, I, 119, 1680).

**2.** *Мера аб'ёму.* Петровскій и Аникеевичъ вывезли вапны коробовъ двадцать чотыри (ИЮМ, X, 168, 1695); за отвезене вапны, коробовъ пяти отъ ратушы къ валу, дали (Там жа, 169). *Параўн.* коробья.

**Коробья, короба** *наз.* **1.** *Тое, што і* коробъ *у 1 знач.* тогды рушили два возы, на которыхъ жо была ѳаса съ кожухи лисьими а съ шолкомъ, а коробьꙗ(КСД, 260, 1516); статки домовые штокольвекъ было до себе побралъ то естъ скринꙗ а коробьꙗ а в нихъ рꙋчъниковъ ѡсмъсотъ (КВЗС, 142, 1540); в той клети скриня малая отлупана а две коробьи верхи подраны и листы розскидано (АВК, XXI, 372, 1558); побралъ ... коробью с перинкою и со всею постелею (Пін., 133, 1562); два листы купчих на дом, в котором на тот час мешкаю, въ клѣти съ короби згинули и не вѣдати через кого сут побраны (ИЮМ, XXXII, 194, 1577); у домуж моемъ от клети замокъ отбившы, речы моих немало побрано и коробю узяли, у которой были хусты белые (АВК, XXXIX, 458, 1579); матки дей моее Матруны коробью узяли (АСД, I, 181, 1590); мунштуковъ до уздъ, подковъ и иншого желѣза, того всего коробья великая наложона (АВК, VIII, 466, 1593).

**2.** *Тое, што і* коробъ *у 2 знач.* побрали ... талеров цыновых пуздро, лну коробя, яндуловъ чотыры, ящики два великие (АВК, XXXVI, 58, 1582).

**Корова** *наз. Карова.* кто украдеть выше полукопья, а любо корову, того узвѣсити (АЗР, I, 82, 1468); играбили въ него два волы а двѣ корове (КСД, 44, 1510); волъ его зачнеть и не сказить выспꙋстит корова его а не звержет (Зб. 262, 21); на замокъ вряднику они живности ... зъ волости дають по куряти, по десяти яецъ, по сыру, по фаскѣ масла, у кого корова есть (АЗР, II, 367, 1540); коровы свини и гуси на испаси мают

заˢманы быти (Ст. 1566 I, 936—94); статку в него волы два, корова одна, подтелок лонщакъ один, овец двое (АВК, XXXI, 58, 1590); волов тежъ, коров, вепров и иншого быдла в незличоноˢ великости з собою вели (Алекс., 27); пѧтдесѧт коровъ до фолварку ѡсобы едноˢ за причину толко давали (Дыяр., 160б); хочь то корова, хочь овца, не бѹдѹтъ оферованы одного днѧ з плодомъ своимъ (Хран., 124); пляцовымъ што сховали корову п. писаря асм. ві (ИЮМ, I, 60, 1679). *Параўн.* крава, крова.

**Коровай** *наз. Вялікі кавалак харчовага прадукту.* вы дей, Федоре а Богдане Корниловичи Превалские ... взяли дей ... скитертей десять, коровай сала (ИЮМ, XXI, 400, 1598).

**Корованъ** *наз. Караван.* што ся дотычеть воженья коровану, в той речы бы еси ихъ по старому заховалъ и тяжкости и драпежства в томъ бы имъ не было (Арх. ЮЗР, VIII-5, 12, 1536); Отъ корована, кгды з Орды идеть, старостѣ: камка Александрыйская на золоте, литра шолку, коверъ (Арх. ЮЗР, VII-1, 82, 1552); за обмовою некоторых людей ... якобы он теж мелъ быт при розбитю корована турецкого ... на Москве дали были посадит (АВК, XXXIX, 511, 1579).

**Короватка** *гл.* карватка II

**Короватый** *прым. Падобны да кары.* Коравъ: Короватый, коръ (Бяр., 66).

**Коровать** *наз. Тое, што і* кровать. почали на короватѧхъ пріносити хорихъ (Цяп., 52); вышодши вˢ домъ свои, нашла беса вышодшого. и дочку лежачую на коровати (Там жа, 53).

**Коровий** *прым. Каровін.* за скуру воловую пять грошей, за коров[ь]ю 3 грошы (КПД, 558, 1557); масла коровъѧ пѧть золотников (Арыст., 212); принесли двдови ...масла, ѡвецъ и сыров корових (Біблія, 388); Рѹгъ: ѧкѡ, кѹсѣй, баранѣй, коровѣй, еленѣй (Бяр., 140); первороднагѡ коровьегѡ и овечогѡ, и козегѡ не даси ѡткѹповать, бо сѹть посвѧчоны гсдѹ (Хран., 139б); Масло коровьяго горшекъ 2 зол. (ИЮМ, XXIV, 72, 1713); Масло въ Могилевѣ: въ Варш. 1 горшечекъ коровьяго 1 зол. (ИЮМ, XXV, 49, 1715).

**Короговъ** *гл.* хоруговъ

**Короговь** *гл.* хоруговь

**Корогодъ** *наз. Карагод.* Моисеи ... внегда приближашесѧ к полкомъ, ѹзрелъ телец и корогоды. и разневавсѧ [так] превелми (Скар. КВ, 61б); естъ грѣхъ ... слова плюгавые говорити. Пѣсни сромоцьские пѣти, Корогоды водити, плѧсати, и таковаа чинити (Будны, 84).



**Корозыя** *гл.* каразыя

**Королева** *наз. Тое, што і* королевая. Третій прывилей, потверженье жъ великой королевы Боны, на паперы писаный, съ печатью кустодейною (РПП, 343, 1508); королева жыла за ним много лѣт (Трыст., 4).

**Королеванье** *наз. Дзеянне па дзеясл.* королевати. Данъ въ Торуню, дня десятого мѣсеца Декабря, року по Нароженью Сына Божого тисеча пятьсотъ семьдесятъ шостого, а королеванья нашого року первого (АВК, II, 237, 1580); которомѹ даи боже щастливое и вечъное королеванье (Бер. саб., 18б).

**Королевати** *дзеясл. Царстваваць, цараваць.* после езехіаша королевал манасес ижь ісаіа забил да после его королевал амонъ. а потом королевал иѡсіашъ (Валх., 41б); в том то заправдѹ королевъстве королевал тогды некторыи крол именем тентран (Троя, 4); архилай королюеть въ юдеи (Цяп., 3б); Атылѧ ... королевалъ лѣт сорок чотыры (Атыла, 233); я ... зъ королемъ его милостію николи не засѣдалъ; только за покойниковъ князевъ нашихъ, которые королевали (Мял., 316). // *перан. Панаваць.* хсъ оуставши из мертвых оуже не оумреть а смрть емоу далеи пановати не боудет але боудет королевати навеки (Пак. Хр., 25б). *Параўн.* кролевати.

**Королевая** *наз. Каралева.* которая се въ книгахъ светобливое памети королевое ее милости Боны нашла (АВК, III, 1, 1401); Королевой отъ Пскова рубль а посадникъ полтину (КЗ, 372, 1479—1480); Королевая, и король, и князь кардыналъ всказали до его милости (АЗР, I, 158, 1496); корол мѣлъ теж иного сна ис королевои жоны своее (Пак. Хр., 22б); землю гсдрни королеваѧ ее млсть з ласки своее емѹ дати рачыла (КВЗС, 15, 1537); Королеваѧ полѹденьнаѧ: повъстанет на сѹдъ зˢ родомˢ тымъ, и осѹдить его (Цяп., 16б); Королеваѧ почала крычати (Трыст., 11); ѹ Вилни ѹмерла королеваѧ молодаѧ, королеваѧ Эльжбѣта (Рач., 353); тогож годѹ ѹвосен королеваѧ ѹмерла (Патр. К, 64); которѹю чтимо тым способом же ест королевою всего свѣта (Зб. 261, 202); *Параўн.* королева, королица, кролевая.

**Королевичъ** *наз. Каралевіч.* Се язъ великій князь Казимиръ, королевичъ, и зъ своею братьею коньчали есмо миръ со Пьсковомъ (АЗР, I, 51, 1440); Одверному королевичовъ Богданьцу рубль (КЗ, 202, 1441—1480); кнзь великии Казимиръ королевичь. даль емоу ѡчинѹ его Мьстиславль (Увар., 108); Повѣдаемъ твоей милости, ижъ есьмо зъ ласки Божьее поспол съ королевою нашою еѣ милостью, съ королевичомъ и

съ королевнами, на тотъ часъ въ добромъ здоровьи (АЗР, II, 156, 1524); Отъ великого князя Казимира королевича намѣстнику Пинскому князю Юрью (РПП, 123, 1558); Трыщанъ рек: длѧ того таꙗ битва не ростанеть: хотѧ ѡн ест королевичъ, а ꙗ сын королѧ Мелиꙗдуша елиѡноского (Трыст., 19); королевича молодого Жыкгимонта Августа на великое кнѧжене Литовское Литва ѡбрали (Рач., 350); показалосе то на ѡнъ часъ в оныхъ королевичахъ, и млоденъчыкахъ рымскихъ которые ... тежар панованьѧ королевъского, або тыраньского зъ себе зложили (Ст. 1588, прадм.); ꙋчинили тогды кнꙗзи панове великꙋ честь кнꙗзю великомꙋ казымерꙋ королевичꙋ (Патр. К, 61). *Параўн.* кролевичъ.

**Королевна** *наз. Каралеўна, дачка караля.* почали лѧхове слати с кракова, къ великомꙋ кнѧзю Ѧгаилоу. абы принѧл крещеніе старого рима. и понѧл бы в них королевноу Ѧдвигꙋ (Віл., 449); Королевая еѣ милость, и король, и князь кардыналъ всказали о королевну Барбару (АЗР, I, 159, 1496); понꙗлъ за себѣ королевнꙋ ꙗдвигꙋ (Увар., 90); посполъ съ королевою нашою еѣ милостью, съ королевичомъ и съ королевнами (АЗР, II, 156, 1524); королевна иного не смѣла речы, леч мовила (Трыст., 16); Эльжбѣта королевна дочка королѧ ... Ѳэрдынанда (Рач., 352); Аннульку, королевну еи милость, миленко, въ ручку поциловали (Мял., 318); на дрꙋгое лето королевна ꙋмерла (Патр. К, 64б). *Параўн.* кролевна.

**Королевский** *прым. Каралеўскі.* о чотырехъ члонъкох за которыи же віна семдесѧт у скарбъ королевскыи идет (Вісл., 6—6б); оу той цр҃кви которою королевскимъ рѧдом ѡправили гробъ собе королевскій готовати велѣли (Валх., 67б); корол тентран до своег полацу королевског, ѡтвезен наполымртвыи (Троя, 7б); Естли бы хто занял або пограбил стадо королевское (Ст. 1529, 93); Радъ бых вѣдал всю истоту ѡ нем, абых умѣл поведати королю Артиушу и у иншых королевских дворех (Трыст., 3б); которому то ѡжэненью королевскому панове и всѧ шлѧхта ... не были ради (Рач., 356); на твердость тоеи речи, далисмы имъ тотъ нашъ листъ привилей, подписавши его рꙋкою королевскою (Апакр., 36б); там сꙗ народил в ста^s нѣ не в королевском полацꙋ (Зб. 261, 73б); Герод ꙋбралъсꙗ в шатꙋ королевъскꙋю и сѣлъ на маестате (Зб. 259, 309); Капланове ... маютъ честь славꙋ, и гоноръ, не тылко шлѧхецкій, але королевскій (Зб. вып., 54). ◊ Е г о к о р о л е в с к а я м и л о с т ь — *яго каралеўская вялікасць (кароль).*



енералъ его королевское милости воеводства Берестейского Янъ Ашенинскій (АВК, III, 1, 1401); призналъ привилей его королевское милости Жикгимонта (АВК, II, 3, 1508); его королевская милость на то с прихиленемъ ласки своей ... призволить рачилъ (АВК, XXII, 148, 1565); Привилей на войтовство Римкунское ... даный отъ его королевское милости потомку небощика пана Тимофея Тетерина (АВК, XIV, 452, 1593); Мы церкви оріенталной греческой сынове ... за позволеньемъ его королевскои млсти ... до берестѧ литовского зъехали (Апакр., 11); п҃нове станꙋ млдническагѡ мѣста его королевское млсти полоцка ... склонили срдца въ единомысльности быти (Ст. бр., 3). *Параўн.* корольский, кролевский.

**Королевство** *наз.* **1.** *Каралеўства; дзяржава.* земьскыи пісари во всех землѧх королѣвъства нашего ... за запис имеют брат ꙗко пісари краковъскыи (Вісл., 43б); в том то заправдꙋ королевъстве королевал тогды некторыи крол именем тентран (Троя, 4); мы што кому дали, то ему держати, какъ въ королевствѣ Польскомъ князи и панове и мѣщане держатъ (АЗР, III, 16, 1547); каждое королевъство розъделившоесе противъ себе, спустееть (Цяп., 16); в одном королевьстве подъ ѡднымъ паномь с католиками бꙋдꙋчи лацно се въ згоде светои доховаете (Бер. саб., 57); бг҃ъ длꙗ тог грехꙋ сꙋрове и целые королевства карал (Зб. 261, 222); Потрвожили сꙗ народы и захвиꙗли сꙗ королевства (Пс. XVII, 24). ◊ К о р о л е в с т в о н е б е с н о е (б о ж ь е) — *царства нябеснае, рай.* ѡбразъ панны маріи которыи тамо был, сторожоу цр҃квномоу реклъ ꙋпоусти ч҃лвка б҃жьего бо достоенъ есть королевства небесного (Жыц. Ал., 97б); не лацъно богатыи ввоидеть в^s королевъство небесное (Цяп., 26б); наполнилъсе часъ, и приближілосе королевъство божъе (Там жа, 43б); приводить старого и великого и светого ꙋ кгрековъ феѡдосиѧ ... которыи такъ до папы пасхалеѧ пишеть ... пастырꙋ ѡвецъ христовыхъ ключникꙋ королевства небесного, каменю вери через которꙋю збꙋдованъ естъ католический костелъ (Бер. саб., 33—33б). *Параўн.* кролевство ў 1 *знач.*

**2.** *Улада, праўленне караля; цараванне.* колижь вышол а цесарем и папе то сказал а ѡны до него рекли хотѧ грешны есмы а вежды рѧды королевства полнимы а державы (Жыц. Ал., 98б); ѡна приказана ... на красꙋ, и велбость, и на королевство, и на живаніе (Неба, 73); умыслил королевство свое уставленем правъ укрѣпити, уважаючы то у себе, же до укреп-

ленѧ королевства так много надобѣ прав ꙗкъ и зброи (Атыла, 181—182); тые близнѧта (частю длѧ встыдꙋ, иж нечистого ложа были сынове, частю боѧчисѧ абы королевство в рꙋки ихъ не пришло) ꙋтопити до реки тибри послалъ (Рым., 77б). ◊ На королевство обрати (помазати, взяти, всадити) — *зрабіць (выбраць) каралём.* ѡбрали Полѧцы на королевство Польское сына его Владислава (Рач., 340); Жыкгимонт вторыи ... за жывота ѡтца своего на королевство Польское был помазан и корунован (Там жа, 350); z toho seymu wmyslili sobie, welikoho kniazia Jagoyła hospodarem na korolewstwo wziaty (Бых., 509); ꙋмыслили ...дѣда своего выгнаного нꙋметора на королевство всадити (Рым., 78); зостати на королевстве — *стаць каралём.* ѡн зостал предсꙗ на королевстве (Зб. 261, 249б). *Параўн.* кролевство *ў* 2 *знач.*

**Королевщызна** *наз. Каралеўская маёмасць (зямля).* с правого боку о межу з маетностю его мсти пана Яна Лосовского ... также и о границу з маетностю, королевщызною, Черницою, с которою граничыт речка (ИЮМ, XXIV, 291, 1668). *Параўн.* кролевщизна.

**Королевъ** *прым. Які належыць каралю ці мае адносіны да караля.* не заимати намъ королевы землѣ, ни его людии (АЗР, I, 1, пасля 1340); ѡ четырех члонкахъ за которыж вина ѻ оу скарбъ королев (Вісл., 17); коли ездять поездники владычины по волости, пригодиться ему судити судъ съ королевымъ наместникомъ (КЗ, 468, к. 1448); намъ и нашымъ дѣтемъ служити королевымъ дѣтемъ(АЗР, I, 78, 1459); присудъ весь королевъ на тыхъ местехъ здавна (КЗ, 466, к. 1488); воеводꙋ оубили. приставовь королевыхь и Витовтовых побили (Увар., 99); другій дворянинъ королевъ Янъ Выдра и Ляхъ Жолудь такожъ ко мнѣ пріѣхали (АЗР, II, 23, 1507); ѡна прыхожала часто въ королев двор на игру (Трыст., 42); Litwa ne meła inde pana braty na kniazstwo Litowskoie, tolko syna Korolewa (Бых., 523); Я, панъ Ивашко Ходковичъ, маршалекъ королевъ, намесникъ Витебский (ИЮМ, XXI, 413, 1623). *Параўн.* кролевъ.

**Королица** *наз. Тое, што і* королевая. мы тому корол[ю], и Ядвизѣ, королици королевства Полского, и съ тыми людми съ Великого Новаго[ро]да, како жь долго держимъ у нашемъ опеканью, слюбили есмы, и еще симъ листомъ ҁлюбуемъ (АЗР, I, 26, 1389); ѡнъж беза всѧкого ѡслушаниѧ оускоре приехаль к нему и своею королицею и честь великоу. и дары многы подаваща имь (Увар., 102).



**Король** *наз. Кароль, манарх.* поидеть оугорьскыи король на литву, польскому королеви помагати (АЗР, I, 1, пасля 1340); мы казимиръ корол полскыи с паны рады корꙋны полское ꙋложіли есмо ты прав (Вісл., 9б); ѡт Римьскаго цесарꙗ приходили. и ѡт Доуньскаго королꙗ послы (Увар., 101); шлꙗхотныи полꙗмидес с҃нъ королꙗ навлꙗ ... приплынул (Троя, 15б); земълю пꙋстовъскꙋю мне господар король его млсть далъ (КВЗС, 159б, 1540); Трыщан подѧковал королю и королевне велми покорно (Трыст., 17); ꙋваж же то мовит не корол, не монарха не цесар, але б҃гъ (Зб. 261, 248б); владиславъ четвертыѕ корол полскиѕ, заслал был небожчика ѡт҃ца ігумена з варшавы до кіева (Дыяр., 177); королеве воѕны хотꙗт зачинати (Зб. 259, 553); станъ кождого Королѧ есть подлѣйшій надъ Станъ Капланскій (Зб. вып., 52). ◊ Король небесныи — *бог.* полнѧт закон королѧ небесного (Валх., 96). *Параўн.* краль, кроль.

**Корольский** *прым. Тое, што і* королевский. я заплачу вины на корольскую ее милости сорокъ рублей грошы (АВК, I, 66, 1633).

**Коромыселъ** *наз. Каромысел, асноўная дэталь шаляў, раўнаплечы рычаг, на адну старану якога падвешваецца груз, на другую — гіры.* За направоване коромысла у шалькахъ Леона Матеешевича, которыми гроши важили дали осмаковъ десять (ИЮМ, IV, 128, 1686); кгды у важницы коромыселъ переломился наполъ у шаляхъ, теды змовили Якова Круглика зготовать коромыселъ, дали золот. десять (ИЮМ, VIII, 41, 1691); кгды зломился у другій разъ коромыселъ у шаляхъ великихъ у важницы, змовили ... коваля знову робить коромыселъ (Там жа, 53); За роботу коромысла до тыхъ шалекъ (ИЮМ, XIII, 50, 1699). ◊ Коромыселъ воды — *два вядры вады, прынесеныя на каромысле.* Воды на мыте коромысловъ петнадцать, заплатили осм. семъ (ИЮМ, VII, 164, 1690); Заплатили невесте за дванадцать коромысловъ воды осм. осемъ (ИЮМ, IX, 159, 1692). *Параўн.* коромыслъ.

**Коромыслъ** *наз. Тое, што і* коромыселъ. тежъ вѣсъ медовый, соляный, музолки, коромыслъ, тымъ его милость Смолнянъ пожаловалъ (АЗР, I, 360, 1505).

**Корона, каруна, коруна** *наз.* **1.** *Каштоўны галаўны ўбор, сімвал вышэйшай свецкай і духоўнай улады, карона, вянец, дыядэма, мітра.* коронꙋ золотыми жемчоуги и иным дорогимъ каменьем ѡкрашеноую имѣли (Валх., 40); привели Вастху Царицу, возложивши на главу еꙗ коруну предъ Царѧ (Скар. КЕ,

4); Гэрбъ ꙗкъ на тарчы так на хоругвѧх носил ѡрла, коруну на голове маючую (Атыла, 180); Смотри жъ вышеⷭ ꙋзришъ тамъ, над гельмомъ корꙋнꙋ, Котораѧ даеть знать иж тамъ богъ фортꙋнꙋ, И цнотꙋ зъ сильнымъ мꙋжъствомъ сполне Коронꙋет (Ст. 1588, Рымша); принесли вси ѡрнамента кролевские ... то ест коронꙋ золотꙋю столок с костеⷭ слоновых зцептрꙋм на котором ѡрел золотыⷭ был на верхꙋ (Бельск., 148б); выразне видилем. нꙋнцiꙋша легата в коронѣ папежскоⷭ, жигмонта кролꙗ и сапегꙋ гетмана (Дыяр., 159б); ꙋвѧсло: Митра, корона с҃тителскаѧ, клейнотъ, ношене (Бяр., 176); Алеѯандер ... казал воиску своемꙋ, также конно и нарадно стати, выбравши всѣ велможи и витꙗзи в царскихⷭ коронахⷭ по достоꙗнiю (Алекс. 1697, 16б); ◊ Взложити (вложити) корону — *каранаваць; каранавацца.* полюбилъ ц҃рь естерю со всѣх жонъ ... и възложил корꙋнꙋ црства на главꙋ еѣ (Зб. 262, 128б); хотѣлъ былъ на себе коруну взложыти (Рач., 333); витовтъ ... мешкаючи емꙋ ꙋ великом лꙋцкꙋ хотел был на себе корꙋнꙋ вложити (Патр. К, 56б); помазал его на царство июдеⷭское и коронꙋ на нег взложил царскꙋю, а закон г҃дниⷭ дал емꙋ, в рꙋки держат (Бельск., 127б); мѣй в почтивости назбыть маткꙋ твою Ц҃рковъ, котораѧ Д҃хомъ с҃тымъ тебе персѧми своими выховала, и сⷭ хрстомъ ведлꙋгъ Б҃га презⷭ мене коронꙋ на головꙋ твою вложила (Кін., 62б); сына Кролемъ оучинилъ и коронꙋ на него вложилъ (Варл., 303б); взяти (приняти) корону — *стаць каралём (царом).* коли ꙗ умру, ты всего моего царъства коруну ѡзмеш (Бава, 146); ꙗкос перед тым твое панство держалъ, такъ и тепер приⷭми перскую коронꙋ, а ꙋживаⷭ моцы твоеⷭ (Алекс., 21б); ꙋмыслил трифонъ царствоват во асии, а взꙗт на себе коронꙋ (Кн. Мак., 62); носити корону, пожывати короны — *быць каралём.* ты будеш панства сего коруну носити (Бава, 140); Слышачи то кондаꙋлос, ꙋчинил ему почестност мовечи: ѡ намꙋдръшиⷭ антиѡхꙋ, слушно бы абы поживал царскои короны (Алекс., 39б); старатися о корону — *рабіць захады, каб стаць каралём.* которій то июлиꙋсъ папежъ кгды сѧ оу него о коронꙋ королевскꙋю иван кнѧзь московскій ... старалъ, подаючи емꙋ кондиціи, за котѡрими бы стараньюего догодити мѣл, а найпервей тые три написал (Апакр., 201); не перепустити коруны — *перашкодзіць каранавацца.* кн҃зь великии Витовтъ хотель положити на себе короуноу и его неприꙗтели Полꙗнене не перепоустили кароуны и разболесѧ кн҃зь великии Витовтъ (Увар., 102).

**2.** *Каралеўская ўлада, улада манарха.* папежъ ... вынеслъсѧ над тые котѡрыхъ Ѱаломникъ богами назвалъ, то есть, над



кнѧжата, королѣ, цесари, скипетро кролевское и короунꙋ имъ ѿнѧвши, а собѣ привлащивши, ѿ которого бы ее брати мѣли (Апакр., 176); Побравши александер великие скарбы и богатства по поражцѣ перскоⷭ тꙗгнул до сирѣи, до которог там мног кролев приехало подаючи емꙋ в моц кролевства с коронами (Бельск., 173); маеть таѧ бесѣда двѣ квестіи, албо пытанѧ, если Маестаты албо столци, и Короны сꙋть креатꙋрами (Мак., 60); вси пожадливости телесные подопталъ, богатства и славꙋ и чести людскіе зневажилъ, коронꙋ и пꙋрпꙋрꙋ ѿкинꙋлъ: над паꙋчинꙋ подлѣйшіе ѡные бытⷭ розꙋмѣючи (Варл., 336).

**3.** *Дзяржава, каралеўства, зямля.* хочемъ при нихъ, при корунѣ королевства Полского пристати, и съ нашею сило[ю] и съ нашими помочми (АЗР, I, 26, 1389); и зася до Венгровъ тягнути и тую коруну посѣсьти и въ ней зимовати (чого сотворителю Боже, вховай и не допусти ему того вчинити) (АЗР, II, 346, 1538); Атылѧ ... поималъ его и забил и казал вкинути у Дунаи, над которомъ Сыкамбрыѧ и Буда албо Будынь столечное коруны угорское мѣсто лежыть (Атыла, 215); вⷭ той зацной коронѣ нарѡдоу полского, литовского, роуского, иѳлѧнского, и иныхъ есть немало розрозненыхъ вⷭ вѣре (Апакр., 24б). ◊ Корона (коруна) польская — *польскае каралеўства, польская дзяржава.* мы казимиръ корол полскыи с паны рады корꙋны полское ꙋложіли есмо ты прав (Вісл., 9б); ехалъ господарь король его милость съ панства своего великого князтва Литовского зъ Вильна до Короны Польское (КСД, 270, 1516); такъ д҃ховного ꙗко и свецкого станꙋ люди, которыи сѧ с короны полскои з великог кнѧзства литовског и с панствъ до короны належачих на синодъ ... до берестѧ литовского зъехали (Апакр., 11); ѿ того часу корꙋна полскаꙗ стала (Царств., 75б); Семомислав по зештю ѿтцовском з того свѣта, владꙋ короны полскои приⷭмуе (Хр. польск., 5); повстало великое преслѣдоване ... ѿ іновѣрныхъ по всеⷭ коронѣ Полскоⷭ и вел: кнꙗзствѣ литовском (Дыяр., 177); взяти на корону — *зрабіць каралём.* umyslili odnostaynuiu radu y wmysłom, wziaty na Korunu welikoho kniazia Kazimira (Быx., 543—544); обирати на корону — *выбіраць каралём.* Lachowe ne meli obirat na koronu inszoho pana, tolko z detey Witoltowych (Быx., 523); сести на коруну — *стаць каралём, каранавацца.* korol Jagoyło koli wże seł na korune, otpustył welikoho kniazia Witolta (Быx., 509).

